# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 22 (535) Год XI 29 МАЯ 1966 г. Цана 60 гр.


# НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА І НАСТАЎНІЦТВА

На працягу мінулага года і ў пачатку гэтага ГП БГКТ у сваёй шматграннай дзейнасці зрабіла аднак, між іншым, амаль «гераічную» справу. А менавіта: сарганізавала Этнаргафічны музей у Белавежы. Заданне яго вялікае і ганаровае. Ён мае выконваць ролю Універсітэта культуры ў асяроддзі. Ён будзе збіраць помнікі беларускай народнай культуры, як матэрыяльнай, так і духоўнай, будзе іх ахоўваць і рабіць даступнымі для культурна-асветных і навуковых мэтаў.

Але яшчэ пару дзесяткаў гадоў і ў вясковым асяроддзі амаль ужо нічога з прадметаў народнай (традыцыйнай) культуры не застанецца. Імклівае тэмпа пераўтварэння вёскі хутка зніveліруе граніцу культурнага быту між горадам і вёскай. Новая культура, поруч з сучаснай тэхнікай, якая так бурна развіваецца, прынясе ў вёску новыя формы і новы змест культуры. Гэта добра! І мы перад гэтай новай культурай, якая паляпшае жыццё, аблягчае працу чалавека, робіць яго быт культурным, не павінны дзверы зачыняць. Мы павінны вітаць і прыймаць у наша штодзённае жыццё лепшыя элементы новай культуры. Але аднначасова не маем права таптаць і нішчыць усе сляды мінулага, што створана на працягу вякоў нашымі продкамі. Наша народная культура, як і культура кожнага народа, з'яўляецца гістарычным дакументам, які будзе дапамагаць будучым пакаленням пазнаваць мінулае.

Тысячы школьнай і студэнцкай моладзі будуць аглядаць этнаграфічныя экспанаты і вучыцца пашаны да працы мінулых пакаленняў, будуць пазнаваць цяжкі і беспрасветны быт сваіх продкаў. Гісторык, мастак, музыказнаўца ці фальклярыст, мовазнаўца і інжынер сельскай гаспадаркі, прафесар сельскагаспадарчай акадэміі і інш. спецыялісты знойдуць тут патрэбныя для сябе матэрыялы.

(Працяг на стар. 5)



Экспанаты этнаграфічнага музея ў Белавежы. Фота С. Грынявіцкі

У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ

# ДУБІЧАЎ ГАРАДСКІ РОСТ

Думаю, што не так і многа вады праплыве ў рацэ Арлянцы, як Дубічы Царкоўныя стануць горадам. Перспектыва такая як найбольш рэальная. Па-першае таму, што ўрбанізацыя паступае мілёвымі крокамі. Ужо цяпер палавіна людзей у Польшчы жыве ў гарадах (на Беласточчыне толькі 67%), а будзе іх усё больш. Будуць разрастацца старыя гарады, але таксама ўзнікнуць новыя. Дубічы Царкоўныя можа будуць адным з першых новых. Ужо цяпер вёска гэтая пусціла парасткі — вуліцы ва ўсе бакі. Асобных назваў вуліцы не маюць. На кожным павароце трэба пытацца, кудою ў ГРН ці ў школу. Старшыня прэзідыум ГРН, да якога ўрэшце, прайшоўшы лабірынт вуліц, трапіце, зразумее вас напэўна і сваім уважліва-ветлівым спосабам згодзіцца, што мабыць фактычна трэба падумаць аб назвах для новых дубіцкіх вуліц.

Поўны спакойнага настрою, непасрэднасці і ўдумлівасці дубіцкі старшыня Мікалай Чыквін заразіць вас сваёй пагодлівасцю і вельмі падыдзе вам, шукаючым цікавых неспакойных людзей нашай вёскі.

Даведаецеся, што дубіцкі старшыня — гэта сын слаўнага бібліятэкара, кіраўніка павятовай бельскай бібліятэкі, а малодшы брат яго ў Беластоку, пасля філалогіі на Варшаўскім універсітэце працуе настаўнікам і належыць да здольных, арыгінальных маладых паэтаў. На літаратурнай старонцы «Белавежы» ў «Ніве» яго вершы і апавяданні паказваюцца часта.

Мікалай Чыквін здзівіць вас яшчэ і тым, што дбае пра культуру ў сваёй грамадзе. Усе старшыні ГРН-аў і ўсе ГРН-ы павінны пра гэта дбаць. Вядома ж, цяпер не толькі трэба ўмець прыняць падаткі ад гаспадара, трэба ўмець падумаць і пра яго патрэбы адпачынку, забавы.

Для гэтага служаць розныя сеткі клубаў, святліц, бібліятэк на вёсцы, тэлевізараў. Найважнейшае, каб з гэтых пунктаў людзі карысталі. Таму гэтай справай заняліся светлыя людзі ў Дубічах згуртаваныя вакол Мікалая Чыквіна. Знайшлося многа такіх людзей. Ужо не называючы самога старшыні, яшчэ сакратар грамадскага камітэта партыі і разам аграном Анатоль Патэюк, настаўнікі Марыя Вольская, Уладзімір Несцярук. Паўстаў названы дубічанамі каардынацыйны камітэт культурнай дзейнасці. Яго старшынёй стала Марыя Вольская. Культурная дзейнасць у Дубічах Царкоўных гуртуецца ў адным будынку, дзе і клуб «Руху», і бібліятэка і, названая ў Дубічах святліцай, звычайная вялікая зала са сцэнай

(Працяг на стар. 5)



У святочны дзень у вёсцы. Фота В. Рудчык

# СВЯТА ВЁСКІ

Ужо традыцыйна дзень 29 мая завуць Людовым святам.

Па-беларуску будзе добра гучэць Свята Вёскі. Гэта свята тых, хто ў поце чола працуе на зямлі, не заўсёды добрай, не заўсёды ўраджайнай. Працуе цяжка. Устае рана, лягае позна. Мае сцвярдзелыя рукі, спечаны вятрамі і сонцам твар. Не сядзіць у парку на лавачцы. З'ядае паспешна кусок хлеба, часта мяса, часам сала, выпівае свежага малака і бяжыць у поле.

Капрызнае неба хацеў бы прыхіліць, каб ласкавым вокам глядзела на яго жыта, бульбу, авёс. Калі ўсе іншыя хваляць сонечны май, добры турыстычны сезон, едуць над мора, ён глуха ўздыхае — трэба дажджу.

Калі прыдзе дождж, да яго вяртаецца радасць і апетыт. Калі за-

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

■ У Савецкім Саюзе выдана пастанову «Аб павышэнні матэрыяльнай зацікаўленасці калгаснікаў у развіцці грамадскай вытворчасці». Пастанова рэкамендуе ўвесці ад 1-га ліпеня 1966 года гарантаваную аплату працы калгаснікаў (грашыма і натурай). У сувязі з гэтым ў вытворча-фінансавых планах калгасаў будуць прадугледжвацца неабходныя грашовыя і натуральныя фонды аплаты працы калгаснікаў для выкарыстання толькі па мэтаваму прызначэнню. Разлікі па гарантаванай грашовай аплаце працы калгаснікам будуць праводзіцца не радзей аднаго разу ў месяц і натурай у адпаведнасці з тэрмінамі атрымання прадукцыі. Устаноўлена, што пры падзеле даходаў у калгасах у першую чаргу будуць выдзяляцца сродкі на аплату працы. Адначасова абавязана дзяржаўны банк, што пры недахопе ў калгасах уласных сродкаў на забеспячэнне гарантаванай аплаты, даваць такім калгасам у гадах 1966—1970 крэдыт.

■ Лік заходнегерманскай арміі павялічыўся ў мінулым годзе амаль на 25 тысяч чалавек. Падаючы гэту інфармацыю заходнегерманская газета «Дойчэ фольксцайтунг» падкрэслівае, што зараз армія ФРГ налічвае 670 669 чалавек.

■ Інданезійскі ўрад прапанаваў прамыя і мірныя перагаворы з Малайзіяй. Прэзідэнт Сукарна заявіў у палове мая, што ён сам гатоў сустрэцца з прэм'ерам Малайзіі Абдулам Рахманам. Гэтая заява была зроблена пасля пасяджэння, на якім прысутнічалі галоўныя саветнікі прэзідэнта. Абдул Рахман прывітаў гэтую прапанову.

■ 1-га чэрвеня г. г. у Дамініканскай рэспубліцы адбудуцца выбары прэзідэнта, якога выбяруць сярод трох кандыдатаў. Кандыдатам у прэзідэнты ад імя дэмакратычных сіл з'яўляецца Хуан Бош. Хаця Бош цешыцца вялікай папулярнасцю сярод народа, выбарчая барацьба будзе нялёгкаю. У краіне ад красавіка мінулага года знаходзяцца амерыканскія войскі, якія не маюць пака што намеру адтуль вынесціся.

■ Законапраект, які зараз знаходзіцца ў сенацкай камісіі па замежных справах ЗША, прадугледжвае асігнаванне 917 мільёнаў долараў на ваенную «дапамогу» залежным ад ЗША краінам. Макнамара, які нядаўна выступаў у падтрымку законапраекту, заявіў, што 75% усіх асігнаванняў пойдзе дзяржавам, якія мяжуюць з Савецкім Саюзам і з іншымі сацыялістычнымі краінамі. Такім чынам падкрэсліў ён агрэсіўны характар амерыканскай ваеннай «дапамогі».

■ У Маскве закончыўся XV з'езд Камсамола. На з'ездзе з прамовай выступіў генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў. Між іншым заявіў ён, што ў гэтай пяцігодцы толькі за кошт дзяржаўных сродкаў плануецца пабудаваць больш 10 тысяч сельскіх школ, у якіх зможа вучыцца больш як 2 мільёны дзяцей, 8 тысяч клубаў і дамоў культуры...» Першым сакратаром выбраны зноў 36-гадовы Сяргей Паўлаў.

**(Працяг на стар. 4)**

## БССР

### ПІСЬМЕННІЦКІ З'ЕЗД

Адбыўся V-ты з'езд пісьменнікаў Беларускай ССР. Старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР Пятрусь Броўка меў вялікі і цікавы даклад.

«Чаму класічныя творы бессмяротныя? — ставіць запытанне ў сваім дакладзе Пятрусь Броўка. — Таму, што геніі, якія стварылі іх, дасканала ведалі чалавека свайго часу, таму, што самі маглі з'яўляцца героямі сваіх кніг. Таму, што неаддзельнае было іх жыццё ад жыцця герояў. Таму, што ў сваіх творах адлюстроўвалі выключна праўду жыцця.

Творы надуманыя, фальшывыя жывуць нядоўга. Нягледзячы на «шум і гвалт», які ўзнімаюць вакол іх, яны нежывучыя. Прыгадайце, колькі было вэрхалу вакол «Не хлебам адзіным» Дудзінцава, а ўсё прайшло, і ніхто ўжо вельмі не цікавіцца гэтым творам, нікога ўжо не турбуе, а ці быў ён, ці не? А вось «Лёс чалавека» Шолахава, «На ростанях» Якуба Коласа і сёння ўсе чытаюць з вялікім хваляваннем, таму што творы гэтыя — сапраўдныя адбіткі нашага жыцця, яны расказваюць аб перажытым і вучаць жыць».

Далей дакладчык сцвярджае: ...«нам, літаратарам, трэба добра падумаць пра набыццё новых якасцей. Нам проста трэба болей ведаць пра тое, што ствараецца сягоння ў навуцы і тэхніцы, каб гэта веданне ўзбагачала нашы творы, бо адсутнасць такіх ведаў можа пазбавіць нас вялікае колькасці сучасных чытачоў з прычыны нашае абмежаванасці. Гэта не значыць, што ў нашай паэзіі павінна быць перагрузка навуковымі і тэхнічнымі тэрмінамі (а ўжо ёсць некаторыя, якія спрабуюць аглушыць і гэтым), а разумна спалучаны паказ душы чалавека, нашых пачуццяў у абставінах таго сапраўды новага, што з'яўляецца характэрным у нашым жыцці».

Несумненна пацяшаючай ёсць наступная ацэнка:

«Што характэрна для сучаснага этапа беларускай літаратуры? Яе сапраўдная сталасць, якая вызначаецца значным пашырэннем гарызонтаў і значна ўзрослымі яе мастацкімі якасцямі. Гэтыя якасці тлумачацца ў першую чаргу тым, што ў літаратуру прыйшлі людзі, якія па-сапраўднаму ведаюць жыццё, вельмі сур'ёзна ставяцца да сваёй прафесіі, няспынна клапоцяцца пра рост свайго майстэрства».

На заканчэнне варта прыгадаць яшчэ адзін урывак з даклада Петруся Броўкі.

«Мне хочацца паведаміць з'езду аб некаторых рашэннях, якія ўжо ажыццяўляюцца альбо будуць здзейснены ў недалёкім часе. Павялічваецца памер часопіса «Полымя», стаў штомесячнікам часопіс «Нёман», будзе ў свой час бібліятэчка маладога аўтара пры «Маладосці», **будзе выдавацца Беларуская савецкая энцыклапедыя, якая з'явіцца вялікім укладам у культуру нашай рэспублікі.** (падк. — С. Я.)

V-ты з'езд Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР выбраў новае праўленне ў складзе 23-х пісьменнікаў. Старшынёй праўлення абраны паўторна Пятрусь Броўка. **(С. Я.)**

## ПОЛЬШЧА

### ВОДЫ МАЗУРСКІХ АЗЁР У СЛУЖБЕ СЯЛЯН

Мазуры. Цудоўная краіна тысячы азёр. Пра іх ужо нават і песні склалі. Вабяць вока, але ў гаспадарчым сэнсе мала служаць чалавеку. З іх басейнаў штогод мільёны кубічных метраў вады адплывае ў Балтыйскае мора. Тым часам суседнія раёны — перш за ўсё Курп'ёўшчына і частка Беласточчыны — наракаюць на недахоп (120 мільёнаў $м^3$) вады, які выклікае частыя засухі. 100 тысяч гектараў раскінутых на правых берагах рэк Нарвы і Пісы атрымоўваюць ледзь трэцюю частку вады, неабходнай для добрага росту раслін.

І тут зрок спецыялістаў накіраваўся на Мазурскія азёры. Яны распалажаны «высока», якраз на мяжы водараздзелаў рэк, якія плывуць на поўнач і на поўдзень. Вобразна можна сказаць, **што ваду на Мазурах маем мы на гары. Хопіць яе спусціць уніз, каб сама пацякла на палі і сенажаці.** На гэтай аснове інжынеры апрацавалі просты але цікавы праект выкарыстання вады Мазурскіх азёр. Праект прадбачвае павышэнне на паўметра ўзроўню вады найвялікшых азёр: **Снярдвы, Негоцін і Мамры.** Ёмістасць гэтых азёр узрасце на 180 мільёнаў кубічных метраў вады. Будзе яе дастаткова, каб выраўняць дэфіцыт сельскай гаспадаркі, ды яшчэ астанецца, каб папоўніць ручаі і канавы непрыдатныя дагэтуль для плавання. Воды азёраў будуць адводзіць два каналы: Паўночны і Паўднёвы. На сваёй дарозе перасякуць яны прыток і Нарвы і Пісы. Вясной, калі вады хаця адбаўляй, паплыве яна рэкамі ў азёры, а летам, калі яе недахоп, каналы адвядуць воду з возераў у рэкі і далей на палі.

На паўночным канале прадбачваецца пабудаваць дзве станцыі помп, якія перапампоўвалі б ваду ў возеры Снярдвы, Негоцін і Мамры з ніжэй ад іх паложаных больш паўночных азёр. Яны дагэтуль бескарысна адводзяць свае вадзяныя запасы ў мора.

Праект адзначаецца вялікай прастатой тэхнікі яго ажыццяўлення. На некаторых толькі берагах азёр прыдзецца пабудаваць невялікія плаціны і валы, а пабудова каналаў пры сучаснай тэхніцы не стварае вялікай праблемы.

Прадбачваецца, што ўсе інжынерныя працы будуць каштаваць прыблізна 500 мільёнаў злотых. На загаспадараванне палёў і сенажацяў дадаткова спатрэбіцца яшчэ паўтара мільярда злотых. **Усе аднак кошты — палічыўшы толькі магчымы прырост прадукцыі сельскай гаспадаркі — звернуцца на працягу 8-мі год працы навадняючай сістэмы, базай для якой з'яўляюцца Мазурскія азёры.** Першыя выканаўчыя работы прадбачваецца распачаць вясною 1968 года.

Жыхараў паўднёва-ўсходніх раёнаў Беласточчыны больш зацікавіць другі падобны праект. Ён адносіцца да Сувальскіх азёр. Тут перш за ўсё скарыстаюць Дуброўскі і Сакольскі паветы Беласточчыны.

## ВАЯВОДСТВА

### ГУРТКОЎСКАЯ ДЗЕСЯЦІГОДКА

Сялянскае вытворчае аб'яднанне, якім з'яўляюцца сельскагаспадарчыя гурткі, зрадзіла жыццёвая патрэба. Аўтары гэтай дасканалай ідэі самі дакладна не прадчувалі, якія сеюць зерні. Закаласіліся яны цудоўна. Ёсць іх у Беластоцкім ваяводстве звыш 2250. Аб'ядноўваюць яны амаль 60-тысячную армію сялян. Высокімі арганізацыйнымі дасягненнямі адзначаюцца Дуброўскі, Сямяціцкі, Бельскі і Гайнаўскі паветы. Сетка «кулак» загушчана там многа больш чымсьці ў другіх паветах.

У гісторыі сельскагаспадарчых гурткоў наглядаецца паслядоўнае развіццё ад простых да болей складаных форм кааперацыі, а нават да супольнай апрацоўкі зямлі пакінутай гаспадарамі. Найперш гурткі канцэнтравалі сваю ўвагу перад усім на механізацыі. Трактар — дык гэта было ўсё. «Залажылі «кулка» і купілі трактар», — інфармавалі тады вясковыя дзеячы, калі прыходзілася пытаць пра жыццё сялян. **Цяпер сельскагаспадарчыя гурткі сталіся арганізатарамі і закройшчыкамі хлебаробніцкай прадукцыі.** Вельмі часта яны рашаюць справы, якія адносяцца да цэлай вёскі.

Вялікім штуршком для развіцця сельскагаспадарчых гурткоў было ўтварэнне ў 1959 годзе **фонду развіцця сельскай гаспадаркі.** Грошы, якія дзяржава не даплачвае (у адносінах да рынкавых цэн) да абавязкавых паставак, пачалі вяртацца ў вёску ў якасці трактараў, абмалотачных агрэгатаў і ўсяго другога механічнага абсталявання. Сумы гэта не малыя. Лічацца мільярдамі злотых. Дазволіла гэта правесці грунтоўную змену спосабаў апрацоўкі зямлі. Хопіць толькі ведаць, што яшчэ 5—6 год таму назад у распараджэнні сельскагаспадарчых гурткоў Беластоцкага ваяводства было ўсяго ледзь 170 трактараў. Цяпер ёсць іх звыш 2 тысяч, а за 4 гады — **аж** 5200. Рост сапраўды рэвалюцыйны. Рэдка дзе цяпер пачуеш: «А, мой дзед мог, ды і я...»

А ўсё ж мала гэтай тэхнікі. Калі б усё прышлося заараць трактарам, дык кожны трактар вымушаны быў бы зараз заараць каля дакладна 482 гектары поля, а ў Гайнаўскім павеце яшчэ больш, бо 517 га.

А што рабілі б ў Кольненскім павеце, дзе на адзін трактар выпадае аж 1318 гектараў ворыва.

Аб нейкай механізацыі палявых работ можна гаварыць толькі тады, калі аднаму трактару прыпісана не больш 100 га грунту. (У некаторых краінах на Захадзе 1 трактар абслугоўвае па 10—15 га).

Таму неабходна было **прыняць прынцып канцэнтрацыі сельскагаспадарчай тэхнікі.** Прынцып неабходны хаця недасканалы, бо адных крыўдзіць, а другім дае прывілеі. Аднак практыка мінулых год паказала, што там, дзе больш машын пад рукой аднаго гаспадара, прыносяць яны шматзначную карысць і сялянам, і іх гуртку.

Вось у вёсцы Курашава, што на Гайнаўшчыне, сельскагаспадарчы гурток мае ў сваім распараджэнні 7 трактараў і два абмалотачныя агрэгаты. Дапрацаваўся ў мінулым годзе аж 145 тысяч злотых чыстага даходу.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 29. V.

8.55 Program dnia; 9.00 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru siana"; 9.45 Dla młodych widzów: „Kino Przygoda": „Bajka o zmarnowanym czasie" — film fab. radz.; 11.00 „Jan Matejko"; 11.30 P.K.F.; 11.50 „Nie masz życia nad Kaszuby" — rep. film. ze wsi Wiele; 12.00 Polska Muzyka Ludowa; 12.55 Dla dzieci: „Latający reporter" rep. z Państwowej Stadniny Koni w Strzegoniu; 13.25 „Teatrzyk dla Przedszkolaków": „Chłopiec z niebieską tarczą" A. Chodorowskiej; 13.55 „Wycieczka na krakowskie strychy („Piórkiem i węglem"); 14.15 „Czy gwiazdy były nieszczęściem filmu?" („W starym kinie"); 15.15 TV Koncert Życzeń; 16.10 „Antonioni" („Portrety"); 17.05 „Ludzie i zdarzenia" — rep. film; 17.20 „Studio 63": „Pan Tadeusz" A. Mickiewicza. Wykonawcy: Z. Kucówna, A. Śląska, S. Butrym, A. Hanuszkiewicz, G. Lutkiewicz, M. Milecki, J. Strachocki, I. Śmiałowski, K. Wichniarz, J. Ziejewski, A. Zaorski; 18.20 „Polska Jagiellonów" — teleturniej; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Kurczak co niedziela" — film fab. USA; 21.30 Recital piosenkarski; 21.50 „Niedziela Sportowa";

PONIEDZIAŁEK, 30. V.

16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" — film; 17.15 Dla młodych widzów: „Gol" — odc. III; 17.35 „Kutno" („7 milionów młodych"); 17.50 „Petenci"; 18.15 „Kino Krótkich Filmów"; 18.45 „Magazyn Postępu Technicznego"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 Teatr TV: „Jesienny wieczór". F. Dürrenmatta. W rolach głównych: J. Woszczerowicz, G. Holoubek; 20.50 „Na półkach księgarskich"; 21.00 „Trybuna Telewizyjna"; 21.45 Dz. TV; 21.55 19 lekcja jęz. ang.;

WTOREK, 31. V.

10.00 „Za białym murem" — film fab. CSRS od lat 16; 11.10 Przerwa; 16.20 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka. (Prawo odbicia światła. Obrazy w zwierciadłach płaskich i kulistych) Wykładowca — doc. dr A. Wróblewski; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś; 17.25 „Informator Handlowy"; 17.35 „Skrzyżowanie dróg"; 17.55 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór" — z wizytą u Tadeusza Paculy; 18.25 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 18.50 „Maski 66"—program rozrywkowy; 19.10 Ćwiczebny rejs" — film pol; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 Koncert muzyki elektronowej (utwory kompozytorów radzieckich — Moskwa); 20.40 „Za białym murem" — film fab; 21.50 Dz. TV; 22.00 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka. (Prawo odbicia światła. Obrazy w zwierciadłach płaskich i kulistych). Wykładowca — doc. dr A. Wróblewski; 22.30 19 lekcja jęz. franc.

ŚRODA, 1. VI.

9.55 Dla szkół (kl. VII) „Komitet Partyjny działa" („Wychowanie obywatelskie"); 10.20 „Miłość w miasteczku" — film USA; 11.10 Przerwa; 15.40 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Twierdzenie Talesa i jego zastosowanie); 16.10 Program dnia; 16.15 PKF; 16.25 Wiad. dz. tv; 16.30 Międzynarodowy Dzień Dziecka — program specjalny: 1) „Miś z okienka", 2) „Misie Ptysie" Z. Poprawskiego (transmisja z Teatru „Lalka"), 3) „Miś z okienka"; 17.55 Sprawozdanie sportowe; 18.45 C.d. programu specjalnego z okazji Dnia Dziecka: 1) „Miś z okienka",, 2) „Zabawa", 3) „Miś z okienka"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Miłość w miasteczku" — film USA; 21.10 „Światowid"; 21.35 „Wybitni artyści"; 22.00 Dz. TV; 22.10 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Twierdzenie Talesa i jego zastosowanie); 22.40 19 lekcja jęz. ros.

CZWARTEK, 2. VI.

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski. L. Kruczkowski „Kordian i Cham" („Wśród książek"); 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. V). Historia „Kronika Króla Kazimierza"; 12.25 Przerwa; 15.45 19 lekcja jęz. franc.; 16.05 TV Kurs Rolniczy; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Gawęda o zwierzętach"; 17.20 Dla młodych widzów: „Wyprawy Telewizyjnych Przyjaciół"; 17.50 „Nie tylko dla pań" — mag.; 18.10 „Informator Handlowy"; 18.20 „Lira" — historia w obrazach — program muzyczny; 18.45 „Pod znakiem jakości" — program nr 9; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Kwiaty i ludzie" — reportaż z Krasnodaru z największego rosarium w ZSRR; 20.20 Teatr „Kobra": „Pomyłka, proszę się wyłączyć" Lucille Fletcher. Wykonawcy: A. Śląska i aktorzy scen warszawskich; 21.20 „Praska Wiosna" — koncert z Pragi; 21.50 Dz. TV;

PIĄTEK, 3. VI.

16. 30 19 lekcja jęz. ang.; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Zrobimy to sami"; 17.30 „Mozaika" — film („Świat, który nie może zginąć"); 17.55 „Azymut" — Wojskowy Magazyn Młodzieżowy; 18.20 Film krótkometrażowy; 18.35 Wszechnica TV: „Sztuka w życiu" („Jak patrzeć na dzieło sztuki"). Przed kamerą — prof. dr J. Białostocki; 19.05 „Z kamerą po kraju"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Człowiek w wielkim mieście"; 20.25 Teatr TV: „Nie trzeba krzykiem zagłuszać ciszy nocy" L. Leguta. Wykonawcy: W. Lothe-Stanisławska, A. Chodakowska; 21.25 „Literatura Ziem Odzyskanych" — dyskusje; 22.05 Dz. TV.

SOBOTA, 4. VI.

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia. „Afryka walcząca o niepodległość"; 11.25 „Kasiarz" — film fab. ang.; 13.15 Przerwa; 15.55 19 lekcja jęz. ros.; 16.15 Program dnia; 16.20 Dla nauczycieli: „Wychowanie przez sztukę"; 16.35 Program Tygodnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego"; 17.45 „Piotruś i jego zwierzęta" — film fr; 18.10 „Tele-Echo"; 18.40 „Janko Muzykant" — program baletowy; 18.55 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.05 „Piknik dookoła Polski" — program rozrywkowy; 21.05 „Pegaz" — mag. kult; 21.50 Dz. TV; 22.05 Wiadomości sportowe; 22.20 „Kasiarz" — film fab. ang. (od lat 16).



Міра Хмялеўская — вучыца ў II класе 24 школы ў Беластоку. Спявае беларускія песні. Найбольш любіць «Люблю наш край».
На любую тэму прадэкламуе беларускі верш. Цудоўна танцуе. Вучыцца на 5 і 4. Хоча быць дэнтысткай.

# ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ

Ці любім мы нашых дзяцей? На такое пытанне кожны паблажліва ўсміхнецца. Ясна, любім!
А ўсё ж стаўлю такое пытанне. У сувязі са святам нашых дзяцей варта глыбей задумацца над ім.

Дзеці ў нашай краіне маюць умовы росту, развіцця, навукі. Не ўсе аднак аднолькава. Многа дзяцей не адчувае паўнаты бацькоўскай ласкі і любві.
Свята Дзіцяці мае рацыю быту, як аказія для задумы над лёсам дзіцяці, яго роляй.
Свята Дзіцяці гучней святкуецца па гарадах. Без следу часта праходзіць на вёсках. Вядома, пачатак чэрвеня — час летняй рабочай гарачкі. Каму там у галаве свята малога дзіцяці?
Такой несправядлівасці нельга рабіць. Усе павінны спалучыцца для святкавання свята ўсіх дзяцей. У гэтым годзе патрануе Дню Дзіцяці камітэт Фронту адзінства народу. Гэты вялікі фронт павінен як ў паветах, так і ў вёсках ахапіць сваёй апекай усіх дзяцей. Формы прадбачваюцца розныя: спатканні, грашовыя зборы на патрэбы дзяцей, розныя мерапрыемствы, конкурсы.
Заклікаю да складання ў павятовых камітэтах Таварыства прыяцеля дзяцей вопраткі і цацак, якія будуць дзелены паміж сіратамі і паўсіратамі, пакінутымі і занядбанымі дзяцьмі. Няхай адчуюць усе дзеці, што ёсць іх свята і ёсць добрыя дарослыя людзі.

*

Старшынёй Ваяводскага камітэта святкавання Міжнароднага Дня Дзіцяці ў гэтым годзе выбраны старшыня Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу пасол Беластоцкай Зямлі **Станіслаў Юхніцкі.**

За пасрэдніцтвам «Нівы» Старшыня складае пажаданні з выпадку Міжнароднага Дня Дзіцяці 1966 года.
Чаго трэба жадаць нашым дзецям?
Каб выхаваліся на правых грамадзян Народнай Польшчы. Каб не пазналі жуднасцей вайны, якія былі ўдзелам іх бацькоў і дзядоў.
Каб вучыліся добра.
Каб іх будучыня была радаснай, яснай, шчаслівай!

# СЫН ВЁСКІ

У беластоцкім мастацкім салоне адбываецца выстаўка жывапісу Аляксандра Хомчыка (пры Рынку Касцюшкі). Паходзіць ён з вёскі Паўднёвы Востраў на Сакольшчыне — і хаця б з той рацыі моцна сімпатызуе з беларускім культурным рухам, а нават удзельнічае ў ім настолькі, наколькі дазваляе яму вольны час. Публікаваў рэпрадукцыі сваіх мастацкіх прац ў «ніваўскай» літаратурнай старонцы «Белавежа» і аформіў пару нумараў гэтай старонкі.

Аляксандр Хомчык закончыў Вышэйшую мастацкую школу ў Гданьску — закончыў яе з выдатнымі адзнакамі. Ужо тады яго творчасць знаходзіла высокую ацэнку не толькі сярод сваіх равеснікаў, але і прафесараў Вышэйшай мастацкай школы.

Бюро мастацкіх выставак выдала альбом некалькіх карцін Аляксандра Хомчыка. Слова аб ім напісаў Вітальд Фрыдрых, вядомы прафесар жывапісу. Гэты прафесар так піша аб А. Хомчыку:

«Не ведаю, якою дарогаю будзе развівацца яго бясспрэчны талент, — якія стымулы будуць уплываць на яго светапогляд і існаванне, але я пераконаны, што ягонае гарачае сэрца і воля — так неразлучныя ў ім — з'яўяцца той магутнаю сілаю, якія павядуць яго па шляху вялікіх дасягненняў»...

Такія спадзяванні радуюць нас. Тым больш, што Аляксандр Хомчык не скарыстаў з магчымасцей выгоднай працы і дзейнасці ў гданьскім мастацкім асяроддзі, вярнуўся на Беласточчыну — вярнуўся ў сваё роднае. Сустракаюся я з ім даволі часта ў яго мастацкай майстэрні, якая знаходзіцца на паддашы пры беластоцкай вуліцы Сабескага. Таму маю магчымасць здрадзіць чытачу яшчэ адно мілаванне Аляксандра Хомчыка: цяпер канчае ён працу над кароткаметражным фільмам, які пакуль што правізорна названы — «Мая аколіца». Мастак працуе ў прымітыўных умовах. Не пашкодзіла б сарганізаваць пры БГКТ малюткую аматарскую кінастудыю, фільмаваць помнікі беларускай культуры. Словам, стварыць сапраўдны аматарскі фільм-клуб! Хто ведае, ці не мела б гэта свайго вялікага будучага сэнсу... (СЯ)

# НА НАСТАЎНІЦКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

У Бельску адбылася чарговая метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Канферэнцыю вяла мгр Лідзія Гайдук, кіраўнік рускай і беларускай мовы Ваяводскага метадычнага цэнтра. У парадку дня стаялі праблемы звязаныя непасрэдна з рэалізацыяй новай праграмы. Аб жыцці і творчасці Е. Карскага гаварыў прысутным Мікола Гайдук сааўтар новай праграмы навучання беларускай мовы. Затым настаўніца пачатковай школы ў Кожыне Марыя Вязоўская расказала аб апрацоўцы тэмы па правапісу «не, ня з прыметнікамі».
Але найлепшыя праграмы, канферэнцыі не заступяць настаўніку падручніка. Дыскусія заняла вельмі многа часу на разважаннях аб хранічным недахопе падручнікаў і кніжак да беларускай мовы ў бібліятэках. Настаўніцы І. Панасюк з Рыбалаў і Н. Кучынская з Плюціч гаварылі, што старыя падручнікі, якімі зараз карыстаюцца вучні (хаця ў вельмі малой колькасці) абсалютна не згодны з праграмай. Маюць яны толькі па два, тры творы, якія прадбачвае праграма. С. Жужаль падкрэсліваў, што ў апошнія гады не можа купіць у школьную бібліятэку патрэбнай літаратуры, таму, што яе няма ў кнігарнях. Як вынікала з дыскусіі, настаўнікі абсалютна не паінфармаваныя ў справе друкавання падручнікаў па беларускай мове і не ведаюць, з чаго будуць на наступны год вучыць.
Пры арганізацыі такога роду канферэнцый трэба, каб аддзелы асветы звярнулі ўвагу на прысутнасць настаўнікаў з кожнай школы. У Бельску было 22 настаўнікі, а школ ёсць каля 50-ці. Некаторыя настаўнікі скардзіліся, што часам вінаваты кіраўнікі школ, якія наказваюць настаўнікам прыймаць удзел у канферэнцыі іншага прадмета. Вельмі карысным пунктам канферэнцыі ў Бельску была навука беларускіх песень. На апошняй настаўнік Аляксандр Лукашук развучыў з прысутнымі дзве песні: «Славім мы свой край любімы» на словы П. Броўкі і «Мой край».

*(ак)*

# ВАЯВОДСТВА

(Працяг са стар. 2)

Прынцып канцэнтрацыі сельскагаспадарчай тэхнікі яшчэ доўга будзе абавязваць агранізатараў хлебаробніцкай прадукцыі. Канцэнтрацыя ахапіла каля сотні грамад. Другім вёскам прыдзецца, на жаль, пачакаць на ўласныя трактары.

Для іх будуць прадаваць сеўнікі да збожжа і штучных угнаенняў, снопавязалкі, апаратуру для аховы раслін, малатарні і другія машыны, якія змогуць пацягнуць коні.

Дзяржава стварае штораз лепшыя магчымасці для развіцця сельскай гаспадаркі. Больш машын, больш штучных угнаенняў і крэдытаў на будову, больш будаўлянага матэрыялу, меліярацыя лугоў і электрыфікацыя вёсак. Гурткам прыдзецца так ладзіць сваю арганізацыйную і гаспадарчую дзейнасць, каб гэтыя магчымасці выкарыстаць як найлепш.
Сярод членаў сельскагаспадарчых гурткоў наглядаюцца імкненні да таго, каб у вёсках нічога не рабілася без іх ведама і адабрэння. Імкненні хіба слушныя, бо сельскагаспадарчыя гурткі ўжо здольныя да вырашання спраў цэлай вёскі.

**В. Рудчык**




### НАРВА СЯРОД 15

У Беластоцкім ваяводстве маем 15 грамадскіх цэнтраў культуры. Гэта комплексныя цэнтры, якія гуртуюць бібліятэку, святліцу, клуб «Руху», школу, ГС — калі ёсць, ГРН. Могуць быць большыя і меншыя. Найлепшым сярод 15 існуючых з'яўляецца грамадскі цэнтр культуры ў Нарве.

### СЦЭНЫ АМАТАРА

Маем Ваяводскую сцэну аматара пры клубе прафсаюзаў у Беластоку. Першы на ёй выступаў калектыў Дома настаўніка з Гайнаўкі. У «Днях асветы, кніжкі і прэсы» ў канцы мая была адкрыта павятовая сцэна аматара ў Сямяцічах. Першы на ёй выступіў тэатральны гурток Рольнага тэхнікума з Чартаева.

### ШТО З САПСАВАНЫМ ТЭЛЕВІЗАРАМ?

Тэлевізараў усё больш, а тых, хто праводзіць іх рамонт, не прыбывае. Пачынаюцца клопаты, нараканні. У Катавіцкім спулдзельчасць занялася рамонтамі тэлевізараў. У нас гаворыцца аб спецыяльных пераездных брыгадах, ці тэхнічным пагатоўі. Што-небудзь, абы хутчэй!

### ГАЙНАЎСКАЯ ЭСТРАДА ЛІЦЭІСТА

Пры Гайнаўскім беларускім ліцэі пад кірункам Яніны Равінскай працуе добрая эстрада. Выступала на апошнім з'ездзе БГКТ. Беларуская эстрада ўключылася са сваёй праграмай у святкаванні «Дні асветы, кніжкі і прэсы» ў горадзе Гайнаўка. Яе дасціпная праграма вельмі падабалася. (вл)

# САРАКАВАЯ ГАДАВІНА ПРАГРАМЫ ГРАМАДЫ

У чэрвені 1925 г. дэпутаты Браніслаў Тарашкевіч, Сямён Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла і Павел Валошын вышлі з Беларускага пасольскага клуба і стварылі Пасольскі клуб сялянска-работніцкай грамады. Гэтае здарэнне запачаткоўвае новы перыяд у гісторыі Заходняй Беларусі. Прымірэнча настаўленыя да тагачаснай польскай дзяржавы беларускія дзеячы ў выніку антынароднай тэрарыстычнай палітыкі буржуазна-памешчыцкай улады — зразумелі, што для беларускага народа няма іншага выхаду акрамя рэвалюцыйнага знішчэння прыгнятальнікаў.
Клуб Грамады пачаў шырокую кампанію выступленняў у Сейме і па за Сеймам, вёў рашучую барацьбу за канфіскацыю памешчыцкіх і царкоўных земляў і перадачы іх сялянам, за дэмакратычны дзяржаўны лад, за беларускую школу і пашырэнне асветы.
У першым паўгоддзі 1926 г. Клуб Грамады ператвараецца ў масавую арганізацыю працоўных. Паўстае патрэба апрацавання праграмы.
Прынятая ў маі 1926 г. праграма Беларускай сялянска-работніцкай грамады выражала патрабаванні і імкненні шырокіх мас беларускага народа і вызначала дарогу да сацыялістычнага развіцця краіны — з учытваннем яе культурных і эканамічных асаблівасцей.
Праграма на першае месца высоўвае справу самаазначэння народаў і цеснага супрацоўніцтва паміж сацыялістычнымі еўрапейскімі народамі, выражаючы гэтым веру ў перамогу сацыялізма ў іншых краінах.

Праграма падкрэслівае, што толькі цесны саюз сялян і рабочых зможа даць прыгнечаным народам свабоду, сялянам зямлю, рабочым працу, толькі ён створыць магчымасць перабудаваць народную гаспадарку, дзяржаўны і грамадскі лад на больш разумных і справядлівых асновах.

Падкрэсліваючы сацыялістычны характар грамадскага ладу праграма не канкрэтызуе, якім спосабам мае быць перабудаваны гэты лад у галіне прамысловасці. Памылковымі былі б з гэтага вывады, што Гдамада бачыць іншае вырашэнне гэтага пытання чымся нацыяналізацыя прадпрыемстваў.
Адсутнасць чоткага размежавання праграмы мінімум і максімум і лаканічнасць фармулёвак у адносінах да праграмы максімум можа выклікаць гэткае ўражанне. Аднак асноўныя прынцыпы праграмы даказваюць яе безумоўна сацыялістычны характар. Праграма клала націск перад усім на актуальныя заданні барацьбы і таму звяртала большую ўвагу на сацыяльныя заваёвы рабочых у рамах існуючага капіталістычнага ладу. Асноўнай масай беларускага насельніцтва ў Заходняй Беларусі былі сяляне і перад усім да іх адрасавана праграма. І тут яе патрабаванні агранічваюцца да праграмы мінімум.

Галоўным патрабаваннем з'яўляецца канфіскацыя і нацыяналізацыя абшарніцкіх і духоўных земляў і падзел іх праз сялянскія камітэты паміж сялянамі і парабкамі бясплатна.
Праграма не давала адказу на пытанне: ці зямля мела быць уласнасцю дзяржавы, ці мела перайсці на ўласнасць індывідуальных сялян.

Не акрэсленне, як мае выглядаць землекарыстанне ў будучыні, не з'яўляецца яе недахопам. Сучасная практыка сацыялістычнага будаўніцтва ў розных краінах, а асабліва ў народнай Польшчы, паказвае, што адказ на гэтае пытанне не можа быць адназначны. Пагэтаму значэнне праграмы праяўляецца ў тым, што яна канцэнтруецца на найбольш набалелых праблемах, паказвае дарогу на найбліжэйшую будучыню, накідваючы толькі ў агульных рысах далейшыя перспектывы.
Некаторыя з гэтых праблемаў сёння могуць выдавацца незразумелымі, як напрыклад: «каб падатак вызначаўся раз у год на адным платным наказе з разлажэннем на раты і з выразным

# СВЯТА ВЁСКІ

(Працяг са стар. 1)

цягнецца дождж, ён зноў моліцца да сонца, каб паказала сваю сілу. Ён не для сябе, не пра сябе. Ён за сваю зямлю і плёны. Свята Вёскі — гэта свята Гаспадара — найбольшае са свят і вельмі важнае. У годзе Тысячагоддзя Свята Вёскі — гэта свята масавасці. Святкавацца яно будзе найбольш і найгучней у грамадах, вёсках. Павятовыя ўрачыстасці будуць адбывацца ў вёсках. Такія цэнтральныя ў павятовым маштабе ўрачыстасці адбудуцца ў Коматаўцах (Беластоцкі павет), Міхалове, Бранску, Сухаволі, Свінароях (каля Нараўкі), Градзіску (Сямяціцкі павет), Карыціне на Сакольшчыне.

У гэтым Дню Вёскі няхай адпачнуць рукі працы тых, хто вырабляе хлеб, малако і мяса.

*

На чале Ваяводскага камітэта святкавання 29 мая стаіць прэзас Ваяводскага камітэта ЗСЛь *Ян Рызнар.* У яго склад уваходзіць І Сакратар Ваяводскага камітэта партыі *Аркадзій Лашэвіч.* (вл)

# НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА І НАСТАЎНІЦТВА

(Працяг са стар. 1)

Праз сваю несвядомасць як жа часта селянін знішчае гэтыя гістарычныя матэрыялы! А трэба аднесціся да іх з найбольшай увагай і сабіраць як найбольш. Калі тымчасовае памяшканне нашага музея не магло б іх змясціць, то трэба да часу перахаваць у надзейным месцы. Добра было б перахоўваць у школах пад апекай настаўнікаў.

Але зараз паўстае пытанне: хто ж займецца зборам экспанатаў? Ці можа і надалей будзе збіраць толькі тав. Ул. Юзвюк, В. Дзун ды яшчэ іншых пару асоб? Адказ просты і ясны: усё свядомае, гэтай справы, наша грамадства, а ў першую чаргу настаўнікі. Настаўнікі маюць залатыя старонкі ў гісторыі этнаграфіі. Возьмем для прыкладу хаця некалькі беларускіх выдатнейшых этнографаў канца XIX і пачатку XX ст.: П. Шэйна, М. Нікіфараўскага, Я. Раманава і інш. Яны сабралі і пакінулі нам у спадчыне бясцэннай каштоўнасці этнаграфічныя матэрыялы. Працуючы ў школах, яны выкарыстоўвалі кожную вольную хвіліну на збор этнаграфічных матэрыялаў, а Я. Раманаў нават і археалагічных, на апісанне народнага быту. Іхняя праца сталася несмяротным фондам у скарбніцы беларускай культуры і навукі.

Думаецца, што настаўнікі, працуючы ў беларускім асяроддзі, хаця і перагружаныя працай, усё ж пры добрай волі і шчырым жаданні змаглі б узначаліць у сваім асяроддзі акцыю па збору прадметаў народнай культуры для Этнаграфічнага музея ў Белавежы. А таксама праводзіць запіс фальклорных матэрыялаў, якія ў першую чаргу могуць і павінны быць выкарыстоўваны ў настаўніцкай працы з моладдзю і ў самадзейных мастацкіх гуртках. На V з'ездзе БГКТ у Беластоку я закранаў гэту справу (у прыватнай гутарцы) з некаторымі вясковымі настаўнікамі. І з вялікім задавальненнем скажу, што ніводзін з іх не «адмаўляўся». Наадварот — кожны «запальваўся» да ўключэння па збору экспанатаў.

Практычна ажыццяўляць гэту задачу, я б не сказаў, што настаўнікам было б цяжка. Хопіць, калі настаўнік станецца толькі ініцыятарам і арганізатарам гэтай акцыі, а ўсю цяжэйшую работу па збору выканаюць вучні і іхнія бацькі. Трэба толькі на ўроках выхавання адпаведна ўсведаміць і падрыхтаваць вучнёўскую моладзь, а яна ўключыцца ў гэту акцыю і зробіць тое, што патрэбна. Тое, што атрымае ад бацькоў бясплатна — прынясе ў школу, а пра іншыя прадметы, якія трэба выкупіць, засігналізуе. Такі метад збору экспанатаў у практыцы этнографаў — музеялогаў пакуль што лічыцца найлепшым. Чаму? А таму, што кожны вучань ведае, якія ў іх сядзібе маюцца прадметы і дзе яны знаходзяцца.

У гэтай працы павінен быць спецыяльна апрацаваны этнаграфічны дапаможнік з інструкцыямі. Але, на жаль, яшчэ яго няма і пакуль што БГКТ не мае сродкаў на выданне.

Пішучы гэты зварот да нашых паважаных настаўнікаў я глыбока пераконаны, што дзякуючы іхняй акцыі Этнаграфічны музей у Белавежы хутка папоўніцца тысячамі новаздабытых экспанатаў. Хай ім паслужыць добрым прыкладам — старшы іх калега настаўнік — пенсіянер — Васіль Дзун, які і словам і чынам дапамагае развіццю музея. А наш селянін павінен ганарыцца, што яго і ягоных продкаў культура дачакалася авансу, пашаны і высокай ацэны, што яна сталася складовай часткай агульнанацыянальнай культуры, і не пашкадуе перадаць бясплатна ў музей тыя этнаграфічныя прадметы, з якіх ужо не карыстае.

Увага! Кожны прадмет (які мае этнаграфічную вартасць), прынесены ў школу, ці ў музей павінен безадкладна атрымаць свой «пашпарт» — г. зн. апісанне: 1) Мясцовая назва прадмета, 2) калі прыблізна зроблены, 3) хто зрабіў, 4) з якога матэрыялу і 5) вёска, павет.

**М. Пецюкевіч**

вызначэннем тэрмінаў». Толькі той, хто сам адчуў цяжар безупынна праследваючай хвалі падатковых наказаў, напамінаў і звязаных з гэтым кар, зразумее, чаму гэткія патрабаванні знайшліся ў праграме.

Адным з асноўных патрабаванняў праграмы было скасаванне як ваеннага, так і цывільнага асадніцтва. У залежнасці тагачаснага польскага ўрада асадніцтва мела стварыць сацыяльную базу, на якой маглі б апірацца буржуазна-абшарніцкія ўлады ў іх барацьбе з нацыянальным і сацыяльным рухам беларускага сялянства. Асадніцтва было сур'ёзнай перашкодай у стварэнні супольнага фронту беларускіх і польскіх сялян, без якога мэты пастаўленыя праз Грамаду не маглі быць здзейснены.

Далейшым патрабаваннем праграмы была камасацыя, спалучалася з прырэзкай сялянам зямлі да нормы, якая стварае магчымасць весці самастойную гаспадарку. Вяжацца з гэтым меліярацыя на кошт дзяржавы, грашовая і агранамічная дапамога на загаспадараванне і адбудову знішчаных за час вайны гаспадарак.

Не вырашаючы, як мае прадстаўляцца палітычны лад дзяржавы, праграма звяртае вялікую ўвагу на самаўрады. Яны павінны выбірацца агульным галасаваннем усяго працоўнага народа, быць незалежнымі ад адміністрацыі, а адной з важнейшых галін яго працы павінна быць забеспячэнне вёскі бясплатнай медыцынскай дапамогай і сацыяльнай апекай у адносінах да ўсіх, хто патрабуе дапамогі.

Вялікі націск кладзе праграма на правы нацыянальных меншасцей. Яна высоўвае патрабаванне бясплатнага навучання ва ўсіх школах на роднай мове вучняў, забяспечання права карыстання ўласнай мовай у дзяржаўным і грамадскім жыцці, свабоды пашырання культурна-асветнай дзейнасці на роднай мове і г. д.

У галіне рэлігіі, учытваючы выкарыстоўванне веры праз касцёл і царкву ў палітычных мэтах, напрыклад, для падтрымання пануючых класаў, або для паланізацыі ці русіфікацыі, праграма дамагаецца аддзялення царквы (касцёла) ад дзяржавы і палітыкі.

Сёння, калі асноўныя патрабаванні праграмы Грамады выпаўнены, а ў народнай Польшчы і БССР рэалізуецца далейшы этап сацыялістычнага будаўніцтва, варта з пашанай аглянуцца назад да падзей, якія адбываліся сорак год таму назад, калі пад сцягам гэтай праграмы зрываліся народныя масы да няроўнага бою.

**В. Склубоўскі**

# ДАСЯГНЕННІ СПР (1)

СПР-ы — гэта цяжкая справа, — гаварыў адзін з кіраўнікоў школы. — Бо падумайце толькі, у пачатковым школьніцтве мы можам змусіць, пакараць бацьку за непасыланне дзіцяці ў школу. А ў СПР усё добраахвотна. Асабіста не веру ў іх будучыню, гэта штучныя творы і застануцца імі так доўга, пакуль улады не ўвядуць гэтага як абавязак. Такія думкі выказвалі многія настаўнікі. Зрэшты многа СПР-аў зліквідавана. Не, не толькі з той прычыны, што кіраўнікі школ песімістычна былі настаўлены.




**На здымку: Лекцыя ў класе...**

Фота аўтара

### НАПРЫКЛАД ОРЛЯ

Адна з мясцовасці Бельскага павета, якая перажывала таксама свой «крызіс» з СПР-ам. Тут таксама бацькі бунтаваліся супроць адміністрацыйнаму прымушанню пасылаць дзяцей у СПР, а такі спосаб свайго часу прыдумалі месныя ўлады. І сапраўды, нічога ён не даў.

— Былі цяжкасці, — гаворыць кіраўнік школы мгр Аляксей Карпюк. — Але цяпер гляньце, — паказвае мне дзённік, — прысутнасць вучняў на занятках амаль 100%. Сапраўды. Каб упэўніцца, я прасачыў дакладна кожны тыдзень заняткаў абодвух класаў. Бывалі тыдні, калі прысутнасць у першым і другім класе выносіла па 22 вучні (толькі вучняў налічвае кожны клас). — Падазраваеце, што гэта фікцыя? Нам многія гэта закідаюць, але мы ўжо так прызвычаіліся, што не звяртаем увагі. Кожны можа пераканацца, пабачыўшы заняткі. Як дайшлі да так высокага паказчыка прысутнасці вучняў на занятках? Справа ж сапраўды не так лёгкая. Сюды ходзяць вучні з сямі вёсак апрача Орлі. Перад усім кіраўніцтва школы паставіла гэту справу перад вучнямі і бацькамі даволі востра. Калі не прышоў у школу, то чаму не прышоў? Пачалі паведамляць аб гэтым бацькоў. Вучням так і сказалі, калі не хочаш хадзіць рэгулярна ў школу, то няма патрэбы займаць месца ў школе іншым. Вучні пачулі **школьную дысцыпліну,** а **бацькі школу.** Вось што нам сказаў адзін з бацькоў: — Бачыце, цяпер вучні як вучні, а не якіясьці курсанты. І сапраўды, на рукавах носяць зялёныя вучнёўскія «тарчы». У школу ходзяць на першую змену. Адным словам вучні прафесіянальнай школы. Школа ідзе на руку і бацькам. У час навалу працы на гаспадарцы (жніво, уборка караняплодаў) на жаданне бацькоў, школа адпускае вучняў на 6—7 дзён. І што тут гаварыць, да школы прыцягвае і магчымасць далейшай навукі.



**...і на доследным участку.**

### ШКОЛА СТАЕЦЦА СЕЛЬГАСЦЭНТРАМ

Песімісты часта ў дыскусіях падаюць на сваё апраўданне, што нават калі ў школах добрая прысутнасць, то польза малая, бо абсальвенты СПР-аў ідуць вучыцца ў напрамку не звязаным з гаспадаркаю. З гэтым абсалютна не згаджаюцца настаўнікі арлянскай СПР. — Мы заўважаем, што нават калі так і ёсць, дык нейкая пасрэдная карысць ёсць, — гаворыць А. Карпюк. — Праграма школы пабудавана так, што кожны вучань павінен залажыць і весці конкурсны ўчастак у сваім гаспадарстве і выконваць тое, што задае настаўнік. А гэты ўчастак знаходзіцца на полі бацькі, і побач расце збажына сына — дачкі і бацькі. Ураджаі ўчасткаў непараўнальна вышэйшыя. Бывае так, што бацька скептычна адносіцца да працы вучня, але потым паціху пераймае спосабы новыя.

Гэта не выдумка кіраўніка школы. Гэта факты, якія сцвярджае кожны год і ў кожнай вёсцы ў час гаспітацыі практычных заняткаў у паасобных вучняў.

### НЕ ТОЛЬКІ НАВУКА

Эспэраўцы прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, маюць разрыўку. Апошні год святкавання Тысячагоддзя Польскай дзяржавы і 1 Мая паднялі яны чын на 3 тыс. зл. У гэтым годзе атрымалі яны дыплом за дасягненні ў 1-шым этапе конкурсу «Сёння ашчаджаю ў СКО, заўтра ў ПКО». Усе вучні з'яўляюцца членамі СКО, а іх ашчаднасці выносяць 7 тысяч зл. Пасля напружанай навукі, вучні адпачнуць на экскурсіі ў Закапанэм, Кракаве, Велічцы. Фінансава вучням паможа бацькоўскі камітэт школы. Але вучні многа працы ўлажылі самі. Працавалі яны на прышкольным учадстку, дзе ў мінулым годзе закантрактавалі бульбу. Чысты даход больш 4 тысяч злотых. Апрача таго школа вядзе светліцовыя заняткі, а таксама працуе арганізацыя ЗМВ. Аб лёсе абсальвентаў і эксперыменце ў наступным нумары.

**Аляксей Карпюк**

# ДУБІЧАЎ ГАРАДСКІ РОСТ

(Працяг са стар. 1)

для выступленняў і з экранам для высвятляння фільмаў. Тут адбываецца яшчэ сельскагаспадарчае навучанне. Бібліятэка пад кіраўніцтвам Жэні Самасюк арганізавала групу чытання добрай кніжкі, мастацкі гурток.

Працай у клубе «Рух» кіруе Ніна Чыквін — жонка Мікалая Чыквіна, але не старшыні ГРН. Чыквінаў у Дубічах не пералічыць і Мікалаяў не бракне. Мікалай Чыквін другі — муж Ніны, з'яўляецца другім сакратаром грамадскага камітэта партыі і адказвае за працу з моладдзю.

Ад імя Прэзідыума ГРН наштодзень культурнай дзейнасцю апякуецца Рышард Місюлевіч, кіраўнік школы з Грабаўца, член Прэзідыума ГРН. Дубіцкая камісія культуры, асветы і спраў сацыяльных Прэз. ГРН належыць да нямногіх жывых камісій такога тыпу.

Шум вакол культуры аказаўся патрэбны і прыцягнуў у гэтую дзейнасць многіх людзей з Дубіч і аколіц. Апрача ўспомненага Рышарда Місюлевіча з Грабаўца, у Тапорках дзейнічае бацька з сынам Мікалай і Валянцін Вевюрка, адзін настаўнік, другі робіць карэспандэнцыйна сельскагаспадарчы тэхнікум у Беластоку.

Шум вакол культуры — гэта, па-другое, чаму Дубічы Царкоўныя стануць у будучым гарадскім цэнтрам. Калі, зразумела, будуць ісці ўсё толькі ўперад.

**Вера Леўчук**

 

Цуды нашага веку



**Вопыты праводзяць: інжынер Антаніна Краўчэнка і тэхнік Віктар Давідэнка. Незадоўга ў Савецкім Саюзе пачнецца масавая яе прадукцыя.**

# ХТО МЫЕ ПАСУДУ?

Найменш змеханізаванымі ўсё яшчэ застаюцца хатнія працы. Чысцім бульбу, мыем міскі і лыжкі цяпер таксама як 20—50 год таму назад. Колькі ж часу і сіл затрачваюць жанчыны на хатняе прыбіранне! І працы гэтай няма ніякага канца, як у манежы — усё кругом.

Праблемамі механізіравання найбольш працаёмкіх працэсаў пры кухні і ў хаце займаецца ў Савецкім Саюзе Усесаюзны навукова-даследчы інстытут электрабытавых машын і прылад.

Працаўнікоў гэтага своеасаблівага інстытута цікавіць усё тое, што ўжо знаходзіцца і што можа знайсціся ў хатняй гаспадарцы. Вось машынка (глядзі здымак), якую канструктары інстытута назвалі «Сюрпрыз». І сапраўды гэта сюрпрыз, але прыемны сюрпрыз для



**На здымку: Вось пасудамыйка «Сюрпрыз».**

гаспадыні. Машынка за 3—4 мінуты часу даводзіць да люстранага бляску найбольш запэцканую пасуду. Яна мые і адначасова сушыць.

На жаль, гаспадыням з Беластоцкага ваяводства доўга яшчэ прыдзецца падобнымі машынкамі захапляцца толькі на здымку. Іх прыводзяць у рух электратокам, якога не мае дагэтуль каля 40% вёсак Беласточчыны.

Нейтрына

**Мала, але цікава**

### КОЛЬКІ НЕПІСЬМЕННЫХ НА СВЕЦЕ?

Крыху менш, чым палова дарослых свету не ўмее пісаць і чытаць. Лік анальфабэтаў расце.

### ВАКОЛ ЗЯМЛІ

Вакол Зямлі круціцца 474 штучныя спадарожнікі, запушчаныя розумам і рукамі людзей. (вл)

### МОСТ НАД БОСФАРАМ

Як заявіў турэцкі міністр публічных работ, яшчэ ў гэтым годзе пачнецца будова вялікага моста над Босфарам, які злучыць Еўропу з Азіяй. Будова працягнецца каля пяці год і будзе каштаваць 1,2 мільярда турэцкіх фунтаў. Збудаванне такога моста будзе мець вялікае значэнне.

Цяпер транспарт праз Босфар адбываецца лодкамі, якія штодзень перавозяць каля трох тысяч розных машын: легкавых, грузавых, матацыклаў і т. п. Зімою бываюць тут буры і туманы, якія прычыняюць шмат турбот у гэтай лодачнай камунікацыі.

Збудаванне моста палепшыць асабовы рух, які адбываецца цяпер пры дапамозе вялікай флатылі маторных лодак-матаровак.

(а-ся)

### ПЛАНАВАННЕ СЯМ'І Ў ІНДЫІ

Недахоп харчоў давёў да таго, што каля 100 мільёнаў чалавек у Індыі пастаянна церпіць голад. Тым часам прырост насельніцтва адбываецца тут вельмі хутка. Калі такі тэмп прыросту захаваецца, дык насельніцтва Індыі, якое налічвае цяпер 480 мільёнаў, павялічыцца ў 2 000 годзе да аднаго мільярда асоб. Цяпер штогод родзіцца ў Індыі дванаццаць мільёнаў дзяцей. Гаспадарка Індыі не ў сілах выкарміць такой лічбы людзей.

Таму вярхоўныя ўлады Індыі прызналі планаванне сям'і, як вельмі важную задачу публічнай і дзяржаўнай дзейнасці. Утворана спецыяльны камісарыят па справах планавання сям'і. Разгорнута шырокую ўсведамляючую акцыю, пахваляецца дабраахвотную стэрылізацыю. Аднак ва ўсіх гэтых справах вялікай перашкодаю з'яўляюцца рэлігійныя вераванні. Напрыклад, у некаторых аколіцах вераць, што толькі нараджэнне сына можа ўратаваць бацькоў ад пекла. Прытым, народ непісьменны, друкаваныя рэчы тут не іграюць ніякай ролі, можа дзейнічаць толькі вусная прапаганда. Улады Індыі спадзяюцца, што аднак удасца абмежаваць прырост насельніцтва; спадзяюцца, што ў 2 000 годзе замест страшнага мільярда людзей будзе іх 750 мільёнаў. (а-ся)

# УСЁ АБ ФІЛЬМЕ

### ФЕРНАНДЭЛЬСКАЯ СМЕРЦЬ

Вядомы французскі комік шукаў фермы (гаспадаркі) для здымкаў да фільма, у якім меў выступіць. І вось дастае ліст: «Паважаны грамадзянін. Адступаем вам дарма нашу ферму для вашых здымак, а гэта таму, што наш дзядзька памёр ад смеху на вашым фільме і аказалася, што ў завяшчанні запісаў нам сваю ферму. Так як вы нам прыслужыліся, мы ў сваю чаргу хочам прыслужыцца вам. З павcurrently ажаннем...»

### У КАН

У Кан адбыўся 20 юбілейны фестываль фільмаў. Польскім фільмам адкрылі і закрылі гэты фестываль. Небывалае прызнанне!

### ЛЕПШЫЯ

З апошніх фільмаў, якія ўвайшлі на экраны кіно Беласточчыны, хачу назваць тры лепшыя: амерыканскі з 1948 года «Dzwonić Nordside 777» — фільм аб тым, як чыкагаўскі журналіст адкрыў праўду аб заключэнні ў турму на 99 год маладога хлапца, якога судзілі ў 1933 годзе за забойства. Фільм моцна ўдарае ў карупцыю амерыканскай паліцыі і судовых улад.

Другі фільм «Месца для аднаго», — польскі, вельмі нам блізкі. Гэта нашыя часы: вось вялікая фабрыка, дырэктар галоўны і яго намеснік. Апошні разбіваецца ў самаходзе, калі вязе ў камітэт партыі важныя дакументы на галоўнага дырэктара. Канфлікт зроблены цікава і праўдзіва. Трэці — гэта шведскі «Квартал крукаў». Фільм цяжкі і сумны безнадзейна, але пабачыць ватра.

(вл)

# Манашская рэспубліка

Ад дзесяці вякоў не стаяла тут нага жанчыны. Так пастанавіў у 1060 годзе Канстанцін, званы Манамахам. І так засталося па сённяшні дзень. Гэтая суровая забарона датычыць усяго, што жаночага полу. Нават авец, кароў, курэй. Ужо тысячу год, як ніхто тут не п'е малака, не есць яек.

Гэту манашскую рэспубліку называюць Рэспублікай Адзінокіх Мужчын. Знаходзіцца яна сто трыццаць кіламетраў ад вялікага грэцкага порта Салонікі. Дарога ўецца крутымі паваротамі праз пустынныя горы грэцкай Македоніі. Вось невялікі пасёлак Трыпіці: тры хаты, гаспода, малюткі порт для лодак. Некалькі кіламетраў далей — граніца Рэспублікі Адзінокіх Мужчын. Далейшае падарожжа можа адбывацца толькі на палубе невялікага катэра, які тры разы ў тыдзень з'яўляецца ў Трыпіці. Цесна. Некалькі пасажыраў запоўніла амаль усю палубу гэтага малюткага карабліка. На мачце сушыцца толькі што злоўлены васьміног. Падплываем да малога порта Дафні, які з'яўляецца галоўным портам Рэспублікі Адзінокіх Мужчын. Гэты порт крыху большы ад таго ў Трыпіці. Тут пагранічны пункт Рэспублікі: адбываецца падрабязная праверка дакументаў. Гэта Рэспубліка, праўда, толькі аўтаномная але нават карэнныя грэкі вымушаны падпарадкавацца пагранічнаму кантролю. Уезд чужаземцаў акрэслены вельмі падрабязным рэгламентам.

Ад Дафні відаць толькі манастыры. Знаходзімся на тэрыторыі незалежнай дзяржавы праваслаўных манахаў.

Існуе яна тут каля тысячы год. Мае свае ўлады, свае законы, хаця і ўваходзіць у склад Грэцыі.

Час вымяраецца паводле календара старога стылю, гадзіннікі выбіваюць тут поўнач не пасярэдзіне ночы, але пры ўсходзе сонца. У Рэспубліцы Адзінокіх Мужчын ёсць нацыянальныя манастыры: рускі, сербскі, балгарскі. У рускім манастыры партрэт апошняга цара Усерасіі.

Рэспубліка мае свой парламент, так званую, Святую Садружнасць. Складаецца яна з 20 прадстаўнікоў найважнейшых манастыроў, якія выбіраюцца штогод, у студзені месяцы. Садружнасць фармуе чатырохасабовы ўрад і кожны дакумент важны толькі тады, калі падпішуць яго ўсе чатыры члены ўрада. Кіраўніком рэспублікі з'яўляецца манах, якога выбіраюць на гэту пасаду раз на пяць год. У час пасяджэнняў Садружнасці сядае ён у асобным месцы, падобным да трону.



Турыст мае запэўнены начлег у кожным манастыры, а таксама бясплатную ежу. Павінен толькі паспець у манастыр перад захадам сонца — для спозненых ніхто не адчыняе варот, начуюць пад голым небам.

На працягу доўгай гісторыі гэтай дзяржавы не раз знаходзіліся тут энергічныя манахі, якія намагаліся заснаваць вышэйшае або сярэдняе вучылішча для манашскай моладзі. Аднак гэта не ўдаецца. Апошнім часам створана тут пачатковую школу і на гэтым пакуль што кончыліся магчымасці сейбітаў асветы ў Рэспубліцы Адзінокіх Мужчын.

Пакінутая на бязлюддзі манастырская дзяржава вабіла колішніх піратаў ды ўсялякіх разбойнікаў. Па сённяшні дзень відаць сляды пірацкіх куляў на магутных сценах. У манастырскіх бібліятэках знаходзяцца старажытныя кнігі, між іншым, уручную пісаная і ілюстраваная біблія з IX і X ст.

У наш час Рэспубліка Адзінокіх Мужчын перажывае выразны крызіс. Калісьці жыло тут каля дзесяці тысяч манахаў, цяпер ёсць іх тут каля 1.200 асоб. У адным слаўным манастыры жыло каля трох тысяч манахаў, цяпер у апусцелых калідорах можна далічыцца іх усяго каля сарака асоб. Няўжо тысячагадовая дзяржава манахаў загіне разам з апошнімі старымі манахамі, якія дажываюць ужо свой век?.. Праўда, у пачатковай школе можна ўбачыць і маладых, але іх надта мала.

(а-ся)

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Як ні дзіўна, але наша хата ўцалела. Збіраліся немцы яе спаліць ды яна спатрэбілася. На нашым падворку некалькі разоў рабілі засаду на мяне. Потым амтскамісар намерваўся тут размясціць гарнізон. Так дом і захаваўся Не ўцалела гумно, і то, мабыць, па віне бацькі.**

**Ноччу павёў ён Навасёлава і Яроцкага ўзрываць поезд. Для мінёраў патрэбны зараснікі, найлепш ведаў кусты бацька ля свайго хутара. У той час мужыкоў на пуць немцы ўжо не ставілі ні ноччу, ні днём, вартавалі самі. Партызаны зашыліся пад ялінкі снегаахоўнай паласы, пачалі чакаць. Як на злосць, поезда ўсё не чуваць. Толькі часта звякалі на броўцы каменні пад ботамі патрулёў ды чулася прыглушанае гергятанне. Стала доўжыцца нашым, давай яны шаптацца.**

**У Валілах азваўся паравоз. Хлопцы жыва папаўзлі да пуці, замініравалі рэйкі.**

**— Яшчэ невядома, як тая міна сябе пакажа! — сказаў бацька.**

**— Пака-ажа, будзьце спакойны!**

**— Ладна! — заўважыў Навасёлаў. — Пад лесам пачакаем на рэзультат!**

**Эшалон ледзьве цягнуўся. Выбух і праўда толькі скінуў пярэднюю платформу з пяском, непашкоджаны поезд спыніўся. Партызаны не ведалі, што ў ім на пяцідзесяці платформах — танкавая дывізія. Разздаваныя танкісты ўскочылі ў люкі машын, павярнулі башні і з паўсотні ствалоў 88-міліметровых гармат адкрылі пякельны агонь. Паляцелі ў паветра страшаўскія платы, прысады, камы раллі. Партызаны ўбеглі ў лес. Ад снарадаў успыхнула наша гумно, асвятліла пустое поле. Танкісты ўбачылі, што смаляць богу ў вокны, страляніну спынілі. Гумно гарэла ўжо, нібы свечка. Бацька з-за пня глядзеў на чорную драбіну кроквау і лат, якія вышчараліся скрозь языкі полымя, пазнаваў знаёмыя сілуэты з часоў, калі ставіў будыніну, маўчаў.**

**Наша група стаяла якраз недалёка. Калі ўзнялася страляніна, мы скочылі насустрач падрыўнікам. Нейкае зарыва асвятліла дрэвы, у лесе відна, нібы днём, я ўстрывожыўся за мінёраў. Але вось з гушчару вылазяць шчаслівыя, хітраватыя і ўспатнелыя Навасёлаў і Яроцкі, за імі валачэцца і бацька. Стары вінавата апускае вочы. Па бляску зарыва здагадваюся — гараць нашы будынкі. Кідаюся да ўскраіны.**

**Гэты раз таксама з намі ў Ліпнікі прыбыла маці.**

**— Стой, не пушчу! — рашуча хапае мяне за рукаў.**

**— Ма-ам, зараз вярнуся, толькі зірну!**

**— Усе нашыя сабраліся і табе няма чаго пярціся на ражон! — цвёрда стаіць яна на сваім.**

**Маці нічога не варта перад цэлым атрадам абарваць мне вушы, надаваць тумакоў: будзеш хіба біцца з ёю! Каб не асароміцца перад людзьмі, падпарадкоўваюся. Так і не бачыў, як згарэла наша гумно.**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**



 

# ТРЫБУНА чытачоў



Мясцовая крама добра забяспечылася перш за ўсё ў піва.

## НА ЮРЫЯ

Як штогод на Юрыя ў Семяноўку збіраецца шмат людзей. І пехатой, і фурманкамі, і веласіпедамі, і матацыкламі. а нават таксоўкамі прыязджаюць людзі на фэст. Семяноўка ў гэты дзень шматлюдная. І каля царквы, і каля вясковай крамы як ніколі многа народу. У другой палавіне дня амаль у кожнай хаце госці. Прыязджаюць яны з адлеглых вёсак, з мястэчак і Беластока, каб пабачыцца са сваімі родзічамі, знаёмымі. Ужо традыцыйна вечарам у мясцовай даволі вялікай святліцы адбываюцца танцы. Юр'еў дзень з'яўляецца аказіяй людзям паказацца і на людзей паглядзець.

**Чытач з Семяноўкі**

## Свята Перамогі ў Райску

Вельмі ўрачыста святкавалі дзень Перамогі 9 мая гарцэры. Рада аховы помнікаў барацьбы і пакутніцтва за іх апеку над гэтымі помнікамі пастанавіла прызнаць найбольш актыўным вучням адзнакі Апекуна месц народнай памяці. Першыя адзнакі атрымалі гарцэры іменна ў гэтым годзе на дзень Перамогі.

У Райску гарцэры мясцовай 55 дружыны ЗГП сабраліся ля кастра. Урачыстасць адбывалася ля брацкай магілы жыхараў Райска памардаваных гітлераўскімі захопнікамі. На ўрачыстасць прыбылі: Анатоль Гіншт, сакратар Прэзідыума ПРН, Юзэф Лясоцкі, афіцэр Войска Польскага, прэзас ЛОК і Ян Пясчынскі, камендант гуфца ЗГП. На ўрачыстасць прыбылі таксама прадстаўнікі ГРН у Храбалах і многія жыхары вёскі. Анатоль Гіншт уручыў дыплом 55 гарцэрскай дружыне і 8 індывідуальных адзнак апекунам месц памяці. Прызнаныя ім Радай аховы помнікаў барацьбы і пакутніцтва і галоўнай Кватэрай ЗГП. Мім іншым адзнаку атрымала кіраўнік школы Зофія Шынголец, адначасова дружыновая ЗГП. Аб слаўнай гадавіне прысутным гаварыў Ю. Лясоцкі. Пры кастры адбылася таксама гутарка з былым вязнем нямецкіх лагераў Мікалаем Ясюком, які расказваў дзецям аб фашысцкіх катаваннях.

У мастацкай частцы гарцэры і вучні чыталі антываенныя вершы, а таксама спявалі песні. Між іншым гучалі таксама беларускія песні. (ак)

## ГАРЦЭРСКІ ДРУГІ АЛЕРТ

Другі гарцэрскі алерт адбываецца пад агульным лозунгам Тысячагоддзя Польшчы. Гарцэры і іх малодшыя сябры — зухі з цікаўнасцю школьніка выконваюць давераныя ім абавязкі. Гарцэры пачатковай школы ў Катлах у днях гатоўнасці сустрэліся з прадстаўніком Войска Польскага. Прадстаўнік Войска Польскага ўдзельнік II сусветнай вайны расказаў аб сваім вайсковым шляху ў радах адроджанага Войска Польскага ад Окі да Берліна. Ён расказаў таксама аб нашай сучаснай арміі, аб яе дасканалай зброі і тэхніцы.

Гарцэрскія віці сарганізавалі вучні пры спатканні з вязнем Асвенціма. Ёй была пані Валерыя Руткоўская, якая зараз жыве з дзевяцігадовым сынам у вёсцы Сабутка ў Бельскім павеце. Для яе цяжка было ўсё пераказаць, што за гады нямецкай акупацыі перажыла яна разам з сям'ёй. Сям'я яе, польскія цыганы, налічвала дзевяць асоб. Арыштавалі іх гітлераўцы толькі за тое, што яны нарадзіліся цыганамі. Усе, апрача яе, загінулі пакутлівай смерцю. Маці яе, наймалодшую сястру і дзевяностапяцігадовую бабулю спалілі ў крэматорыі Асвенціма. Найстарэйшы брат памёр у лагеры ў Беластоку. Калі арыштавалі сям'ю Руткоўскіх, Валерыі было 13 год. Сваімі вачыма аглядала яна жалезныя брамы і калючы дрот з электрычным токам у лагерах Беластока, Брэста, Бжэзінкі, Асвенціма. Расказ Руткоўскай агарнуў прысутных смуткам і нянавісцю да гітлераўскіх катаў. Яна расказвала праз слёзы.

Немцы адабралі Руткоўскай здароўе, маладосць, бацькоў, братоў і сясцёр. На заканчэнне спаткання пані Руткоўская звярталася да дзяцей і гаварыла, каб старанна яны выконвалі свае абавязкі — вучыліся, каб кахалі сваю Радзіму, якая стварыла ім шчаслівае жыццё.

**К. С.**
Катлы

## ГЕРАСІМ МІХАЛЮК — ГРУШКА

У Зубаве ў мінулым жыў Герасім Міхалюк - Грушка. Нарадзіўся ён у 1878 годзе. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы. Пасля заканчэння яе не мог атрымаць нідзе працы толькі таму, што быў западозраны, як удзельнік замаху на жыццё дырэктара семінарыі, які не дапускаў сялянскіх дзяцей у семінарыю, а калі яны былі прыняты, дык «абрэзваў» іх на выпускных экзаменах. (Страляў у дырэктара яго калега, Сяргей Вязоўскі, які пасля гэтага ўцёк у Францыю. Пазней Герасім Міхалюк - Грушка выехаў у Пятркова і там працаваў у банку бухгалтарам.

У 1905 годзе ў час забастоўкі рабочых Пятркова на мітынгу выступаў ён з прамоваю супроць царызму. Пасля гэтага дастаў «воўчы білет» і вярнуўся ў родную вёску Зубава. Быў ён тады ўжо членам СДКП і Ль і дзейнічаў у сваёй аколіцы. Арганізаваў да партыі новых членаў. Пад яго ўплывам у рады СДКП і Ль былі прыняты настаўнікі: Кандрат Анішчук, Аляксандр Паўлючук, Лука Вязоўскі, Шыман Герасімюк, Лявон Карчэўскі, а таксама працаўнік пошты Ільяш Ясвіловіч і працаўнік банку Шыман Міхальчук. Царская паліцыя праследвала яго, праводзіла ў хаце рэвізіі, шукала рэвалюцыйнай літаратуры, але ніколі нічога не знаходзіла, таму што кніжкі ён трымаў у суседзяў. Да Герасіма Міхалюка - Грушкі часта прыходзілі людзі за парадамі, пісаць заявы да ўстаноў і г. ц. Аднойчы прышлі з Пухлаў царкоўны староста і апякун са скаргай на бацюшку, які ўстрымаў ім па 10 год спавяданне і прычасць за тое, што на фэсце на Пакрову было зложана многа грошай на царкву і бацюшка хацеў іх забраць. Староста і апякун не аддалі і пакінулі грошы на рамонт царквы.

Герасім Міхалюк - Грушка напісаў скаргу ў святы сінод у Петраград. Хутка бацюшку вывезлі ў манастыр у Кастрамскую губерню адпакутваць за свае грахі.

Дзякуючы намаганням Міхалюка-Грушкі пабудавана была ў Зубаве двухкласная школа.

Памёр гэты выдатны чалавек Зубава 30 лістапада 1915 года ў Маскоўскім шпіталі.

**Васіль Кірылюк**
Зубава

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### АКАДЭМІЯ

У сувязі з днём перамогі над гітлераўскай Германіяй 9 мая ў памяшканні Беларускага таварыства адбылася ўрачыстая акадэмія сарганізавана ГП, Гарадскім аддзелам і Рускім таварыствам.

У мастацкай частцы выступілі члены эстрады ГП БГКТ і драмгурток Рускага таварыства ў Беластоку.

### БІЛЬЯРД

Гарадскі аддзел нядаўна купіў більярд, які ўстаноўлены ў вялікай зале ГП. Ёсць ужо шмат запаленцаў гэтай цікавай ігры.

### У ХАЦЕ УЛАДЗІМІРА КАБАЦА

Прыемна пабываць у хаце Уладзіміра Кабаца ў Масеве. Перш за ўсё кідаецца ў вочы чысціня і парадак. Яго жонка, Зося, добры спецыяліст ад ткання. У хаце і дываны, і маты, і ходнікі — усё гэта творы рук Зосі Кабац. У горадзе не заўсёды так утульна, так прыгожа ў хаце, як у Кабацаў у Масеве.

У сям'і Кабацаў ёсць тры сыны. Усе яны ўжо дарослыя і самі на сябе зарабляюць. Мікалай у Гайнаўцы працуе ў тартаку, Іван у Катавіцах, а Яўгень жыве ў Нараўцы.

Уладзімір Кабац лічыцца адным з перадавых гаспадароў у Масеве. Гаспадарыць ён на няпоўных 6-ці гектарах зямлі. Мае тры каровы. Шмат малака прадае дзяржаве. (мх)




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Маю 20 год. Жыву з мамай на гаспадарцы на Гайнаўшчыне. Гаспадарка ў нас невялікая. У нашай вёсцы ёсць сельскагаспадарчы гурток, так што цяжэйшыя працы апрацоўваем машынамі з нашага сельгасгуртка. Наогул нам нядрэнна жывецца. Бо і мама мая яшчэ маладая і працавітая. Здаецца, усё было б добра, калі б вось не паводзіны Янкі (так называецца хлопец, якога я кахаю).

Пару месяцаў таму я пачала сябраваць з Янкам. Ён таксама жыве ў нашай вёсцы. Я і Янэк належым да драмгуртка. Таму вельмі часта спатыкаемся. Янэк адводзіць заўсёды мяне дамоў. Часта прыходзіць да мяне на вечарынкі. Мама любіць Янку, бо ён калі прыдзе да нас, дык больш гаворыць з мамай чымсьці са мной. Не шукае прычыны, як іншыя хлопцы, каб быць толькі са мной. Мо таму і мама яго так любіць і хоча, каб я выйшла за яго замуж. Я таксама кахаю Янку. Але мне здаецца, што Янэк мяне не кахае, бо ніколі аб гэтым не гаварыў. Праўда, іншымі дзяўчатамі не цікавіцца, на забаве таксама гуляе толькі са мною і толькі мяне адводзіць дамоў. Але чаму ніколі не скажа, што мяне кахае, нават мала разоў мяне пацалаваў. Што аб гэтым думаць, Сэрцайка? Я ўжо сама хацела яго запытаць. Але саромлюся. Падкажы мне, як пераканацца ў яго каханні?

**Ніна**
з Гайнаўшчыны

**Дарагая Ніна!**

Пытаешся, як пераканацца ў каханні Янкі да цябе? Мне здаецца (на аснове твайго лісту), што ўсе яго паводзіны так пераканаўчыя, што няма патрэбы, каб яго аб гэтым пытаць. Бачыш Ніна, не ўсе хлопцы такія адважныя, каб самі маглі аб гэтым гаварыць. Але ёсць і такія, якія так часта паўтараюць, што ўканцы толькі дзяўчаты пераконваюцца, што гэта былі толькі пустыя словы. Хто больш кахае — тым менш аб гэтым гаворыць. А з лісту вынікае, што твой Янэк хлопец разумны, шануе не толькі цябе, але і тваю маму. А гэта вельмі важна. Таму іменна і мама твая палюбіла Янку. Так што Ніна няма чаго табе пераймацца. Усё як найлепш.

**Сэрцайка**

## ЦЭНЫ

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | — | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | — | 400 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,35 | 1,25 | 1,25 |
| масла | кг | — | 55 | 45 |
| ялавічына | кг | 38 | — | — |
| свініна | кг | — | 39 | 36 |
| сала | кг | — | — | 35 |
| бульба | цэнт. | 150 | 85 | 100 |
| цыбуля | кг | 5 | 3 | 3 |
| капуста | кг | 7 | — | — |
| морква | кг | 2 | 2 | 2 |
| буракі | кг | 2,50 | 2,50 | 2 |

Увага! Знак «—» абазначае, што гэтага прадукту не было на кірмашы. Выразна адбіваецца тое, што сяляне занятыя працай у полі і не маюць часу ехаць на кірмаш. Найменш яны даставілі жыта, пшаніцы і рознага мяса.

# КІНО

Праграма
на 31. V. — 5. VI. 1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 31.V.—1.VI. „Zarezerwowani dla śmierci" (NRD), 2—3. VI. „Dni grozy i śmierci" (USA), 4—5.VI.

**Дубіны**

„Czarne i białe" (USA), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 4—5.

**Нарва**

„Nieznajomi z pociągu" (USA), „Niewidomy muzyk" (radz.), 1—5.VI.

**Нараўка**

„Cena odwagi" (bułg.), „Orkiestra wojskowa" (węgierski), 1—5.VI.

**Чыжы**

„Okres probny" (radz.), „Obca krew" (radz.), 1—5.VI.

**Дубічы Царкоўныя**

„Daleka jest droga" (polski), „Skarb" (polski), 1—5.VI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Człowiek, który zabił Liberta Valancea" (USA), „Wojna trwa" (włoski), 1—5.VI.

**Райск**

„Casanowa znad Dunaju" (węgierski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 1—5.VI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„John i Erdme" (NRF), 31.V.—1.VI. „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 2—3.VI. „Trzy plus dwa" (radz.), 4—5.VI.

**Міхалова**

„Z soboty na niedzielę" (angl.), 31.V.—1.VI. „Czarne skrzydła" (polski), 2—3.VI. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 4—5.VI.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Wraki" (polski), 31.V.—1.VI. „Torreador" (meksykański), 2—3. „Ameryka, Ameryka" (USA), 4—5.

**Мілейчыцы**

„Mezalians" (czeski), 31.V.—1.VI. „Dworek 4-ch dziewcząt" (węgierski), 2—3.VI. „Przybycie tytanów" (USA), 4—5.VI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Walkower" (polski), „Przygody Krosza" (radz.), 1—5.VI.

**Сідра**

„Towarzysz Regent" (czeski), 31.V.—1.VI. „Mandacik proszę" (włoski), 2—3.VI. „Obok prawdy" (polski), 4—5.VI.

**Сухаволя**

„Najdroższa" (radz.), „Zdarzyło się w Rzymie" (włoski), 4—5.VI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**

„O życie dla Ruth" (franc.), „Ostatni świadek" (NRF), 4—5.VI.

У мясцовасці Кляшчэлі, Крынкі, Янаў, Сідра, Новы Двор, Боцькі фільмы высвятляцца не будуць.

НІВА

raty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA. Nakład 5458. Błtk D-3




# «ВЯЛІКАЯ ДУЛЯ»

Апошнім часам шмат чаго добрага чулі мы і чыталі ў «Ніве» пра нашых слаўных літаратараў з «Белавежы». Адзін з іх нават наведаў нашу вёску — Вялікая Дуля. На сустрэчу збегліся ўсе вялікадулеўскія дзяўчаты. Нават старая Матрона прыдрыпала. Паэт распаліў у нас так магутную прагу да літаратуры, што мы пастанавілі актыўна ўключыцца ў развіццё літаратурнага руху на Беласточчыне. За справу ўзяліся ўсе арганізацыі. Пасля доўгіх спрэчак вырашылі заснаваць літаб'яднанне «Вялікая Дуля». Найперш правялі інтэнсіўную агітацыю і тады склікалі сход ды пачалі выстаўляць кандыдатаў у літаратары.

— Зойку Трахімчыкаву! — крычыць нейкая баба.

— Яна ж распісацца добра не ўмее! — пярэчыць яе муж.

— Нічога, навучыцца, але талент у яе літаратурны! — бароняць Зойку, а тут ужо пра Сашку крычаць.

— Ён жа больш да дзяўчат чымсьці да кніжак здольны!

— Без дзяўчат не было б геніяў, — заяўляе былы царскі прапаршчык Палікарп, які паўсвету зведаў. — Вось як Міцкевіч або Барскі.

Паднялася ў зале суматоха, але калі нехта назваў прозвішча Гаўрылавай Манькі, дык усе адразу прыціхлі. Толькі старшыня гуртка Лігі жанчын запярэчыла:

— Яе?! Не! Яе паводзіны..!

— Тым лепш! — спынілі яе. — Сучасны дух і свабода ў творчасці высока цэніцца!

— Дык я прапаную Матвея, — адазваўся наш крамачнік.

— Факт! Абавязкова! — падтрымалі яго кандыдатуру. — Ён дасканала выпісвае квіты на прыёмнай базе нашага ГС-у.

Яшчэ прапанавалі старую Матрону, якая таленавіта чытае малітвы. Магла б прамовы і справаздачы рыхтаваць. Але яе кандыдатура не прайшла па ідэалагічным прычынам. Дык астаткова ў нашым літаратурным аб'яднанні «Вялікая Дуля» засталося 36 чалавек. Ужо апрацавалі мы статут і заказалі пячатку. У перспектыўным плане прадбачваем выдаваць альманах «Вялікая Дуля» і зборнікі паасобных аўтараў. Пакуль што аднак пакорна просім каханую «Ніву», каб захацела раз на месяц адвесці нам адну аўтаномную старонку пад назвай «Вялікая Дуля».

Ад імя грамадскасці нашай вёскі гэту заяву з пашанай складае

Асака

**У ЧЫМ ШЧАСЦЕ**

— Дружа, скажы, як мне быць: узяць багатую ўдаву, якую не люблю, ці бедную дзяўчыну, якую люблю?

— А што табе падказвае сэрца?

— Дзякуй! Відаць, сапраўды не ў грашах шчасце...

— Правільна!.. А дзе жыве тая ўдава?

**ЧАМУ ТАК АТРЫМАЛАСЯ**

— Чаму так атрымалася, што вы тры разы ўзапар кралі ў адной і той ж краме?

— Першы раз я ўкраў для жонкі паліто, а потым два разы хадзіў яго мяняць.

**САПРАЎДНАЯ ЦАНА**

— Ірына, колькі тон вугалю можна купіць за 1500 злотых, калі тона каштуе 400 злотых?

— Тры!

— Няправільна! Падумай яшчэ.

— Я ведаю, што няправільна, але ў жыцці так атрымоўваецца.

**НУ І МОЛАДЗЬ**

— Сучасная моладзь сапраўды не знаёма з правіламі прыстойнасці.

— Прабачце, але ж юнак саступіў вам месца.

— Мне саступілі, а вось жонка ўсё яшчэ стаіць.

**ХТО СКАЗАЎ**

Ну, слухай, больш нельга цярпець! Ты тут п'еш гарэлку, а як аддаваць доўг, дык грошай няма!

— А хто табе сказаў, што тут я не застануся ў даўгах?

**КАЛІ ЗАЎВАЖЫЎ**

— У апошні час я стаў страшэнна рассеяны. Ты толькі падумай, пайшоў на паляванне і забыўся ўзяць стрэльбу!

— Калі ты заўважыў, што яе няма?

— Калі аддаваў жонцы зайца.

**НЕ ТЫ**

— Зноў гэты пястун выцягнуў грошы!

— А можа гэта я ўзяла? — пытаецца маці.

— Не, не ты, у кашальку яшчэ крыху засталося.



Усё людское нам не чужое.



Без слоў.

# ХТО МАЕ РАЦЫЮ?

Адну жанчыну пакінуў муж. І вось яна пайшла да мудраца, каб той сказаў, ці вернецца муж назад. А ў мудраца быў сакратар, які прыймаў наведвальнікаў і перадаваў адказы настаўніка. Сакратар пайшоў да яго, вярнуўся і кажа:

— Мудрэц сказаў, што ваш муж вернецца праз месяц, але я вам кажу, што ён не вернецца.

Праз месяц жанчына зноў прыходзіць з тым жа пытаннем. Сакратар кажа:

— Мудрэц сказаў, што ваш муж вернецца праз тры месяцы, але я вам кажу, што не вернецца зусім.

— Як гэта так, — здзіўляецца жанчына, — мудрэц такі разумны і кажа, што муж вернецца, а вы — што не вернецца.

— Мудрэц вас не бачыў, а я бачу, — адказаў сакратар.

**АКЕНЦА ДУМАК**

**Трэба называць нядобрым таго, хто добры толькі для сябе.**

Публіцый Сір (Іст да н.э.) — рымскі мімограф.

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**Па просьбе Любы Ігнацюк, Ліды Бачынскай і Веры Себешук з Ракавіч, Гайнаўскага павета, Уладзіміра Марчука і Аляксея Троца з Торуня змяшчаем песню:**

## ПОРА В ПУТЬ -ДОРОГУ...

**Дождливым вечером, вечером, вечером,**
**Когда пилотам, скажем прямо, делать нечего,**
**Мы приземлимся за столом,**
**Поговорим о том, о сем**
**И нашу песенку любимую споем.**

**Пора в путь-дорогу,**
**Дорогу дальнюю, дальнюю, дальнюю идем,**
**Над милым порогом**
**Качну серебряным тебе крылом...**
**Пускай судьба забросит нас далеко, пускай!**
**Ты к сердцу только никого не допускай!**
**Следить буду строго,**
**Мне сверху видно все — ты так и знай!**

**Нам нынче весело, весело, весело,**
**Чего ж ты, милая, сегодня нос повесила?**
**Мы выпьем раз и выпьем два**
**За наши славные «У-2»,**
**Но так, чтоб завтра не болела голова.**

**Мы парни бравые, бравые, бравые,**
**Но чтоб не сглазили подруги нас кудрявые,**
**Мы перед вылетом еще**
**Их поцелуем горячо**
**Сперва разок, потом другой, потом еще!**

**Пора в путь-дорогу,**
**Дорогу дальнюю, дальнюю, дальнюю идем,**
**Над милым порогом**
**Качну серебряным тебе крылом...**
**Пускай судьба забросит нас далеко, пускай!**
**Ты к сердцу только никого не допускай!**
**Следить буду строго,**
**Мне сверху видно все — ты так и знай!**

*КУР'ЁЗЫ*

*У мястэчку Форт Мэдзісан, у амерыканскім штаце Айова, існуе заказ, на якім пажарная каманда павінна не менш 15 мінут «разімінацца», перад тым як прыступіць да гашэння пажару.*

**СЛОЎНІК,**

**з дапамогаю якога можна характарызаваць п'яніцу**

**Вынослівы** — напіваецца так, што выносяць з піўной.

**Малапітушчы** — колькі ні налівай, яму ўсё мала.

**Настойлівы** — адмаўляе выпіўку.

**Нястрымны** — пасля першай шклянкі гарэлкі выпівае чарговую.

**Упарты** — калі ў міліцыю вядуць, супраціўляецца.

**Устойлівы** — на нагах трымаецца, але мацае рукамі па сцяне, бо не можа знайсці дзвярэй.

**Ціхі** — калі спіць.

Л. Пасюкоў

**МІЖ НАМІ**

**Калі ніхто іншы не падвернецца на язык, тады ўспамінаем чорта.**

ДАЎНО КАЗАЛА

— Учора па радыё перадавалі, што сёння будзе дождж, — кажа муж, — а цэлы дзень свеціць сонца.

— Я ж даўно казала, што трэба купіць новы прыёмнік, — адказала жонка.

*АПРАЎДАННЕ*

*— Ты горкі, хрэн, —*
*Сказала Рэдзька, —*
*Таму і хваляць*
*Цябе рэдка.*

*Сама*
*Паслухала б людзей:*
*Ты за мяне*
*Не саладзей.*
*— Не саладзей?!*
*Не згодна:*
*Я з мёдам —*
*Асалода.*

Яўген Крупенька



**— Калі ты браў мяне замуж, абяцаў залатыя горы, а зараз толькі зарплату прыносіш.**